Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!



# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 8 (82) | 30 красавіка 1930 г. | № 8 (82)

## ЗЬМЕСТ.



---

## Папраўкі.

1) У Бюл. СНК 1929 г. № 11 (70), у інструкцыі НКУС БССР „Пра парадак выкананьня пастаноў (актаў) аб накладаньні штрафаў за парушэньне абавязковых пастаноў НК Шляхоў...“ на стар. 24, у п. 7, у дужках, трэба чытаць: (З. З. СССР 1925 г., № 70, арт. 518 і З. З. БССР 1926 г., № 26, арт. 97).

2) У Бюл. СНК 1930 г. № 3 (77) у „Нормах (лімітах) кошту аднаго кубамэтра рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва...“ на стар. 4, у п. 6 радкі 3-ці і 4-ты зьверху трэба чытаць: „Для будынкаў у два паверхі“, „Для будынкаў у адзін паверх“.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 91. Пра ўвядзеньне разьліковай кніжкі формы „Б“.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Зацьверьдзіць форму разьліковай кніжкі „Б“ і разьліковага ліста, паводле далучанага да гэтага ўзору.

Паказаная форма разьліковай кніжкі і разьліковага ліста абавязкова для ўсіх прадпрыемстваў БССР.

Форма разьліковага ліста можа быць зьменена па хадайніцтву паасобных прадпрыемстваў у выключных выпадках, кожны раз з дазволу Народнага Камісарыяту Працы БССР.

2. Прадпрыемствы, гаспадаркі павінны выдаваць разьліковыя кніжкі бясплатна ўсім працуючым па найму (апроч асоб, паказаных у арт. 3) не пазьней 7 дзён з дня канчатковагага прыёму на работу. Рабочыя расьпісваюцца ў атрыманьні разьліковай кніжкі на асобным талёне, які хаваецца ў адміністрацыі.

3. Разьліковая кніжка не выдаецца: а) асобам адміністрацыйнага складу, якія маюць права найму і звальненьня, б) асобам, якія паступаюць на работу на тэрмін ня больш 12 дзён.

4. Калі работа па найму выконваецца арцельлю, то адміністрацыя выдае кожнаму члену арцелі паасобную разьліковую кніжку.

5. Разьліковая кніжка заўсёды хаваецца ў рабочага. У выпадку згубы разьліковай кніжкі, адміністрацыя безадкладна выдае рабочаму за яго кошт новую кніжку.

6. Пры выдачы разьліковай кніжкі адміністрацыя запаўняе ў ёй усе графы. Рабіць іншыя адзнакі забараняецца.

7. Разьліковыя апярацыі па заработнай плаце, якая выдаецца, робяцца на разьліковых лістох, з якіх адзін паасобнік абавязкова передаецца рабочаму для прыклейваньня ў карэнчык, што знаходзіцца ў вокладцы разьліковай кніжкі.

8. Разьліковая кніжка зьяўляецца пісаным доказам найманьня рабочага і асноўным дакумантам для вырашэньня спрэчак, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні працоўнага дагавору.

Калі запісы ў разьліковай кніжцы няпоўныя альбо няяскравыя, цяжкасьць доваду ўскладаецца на адміністрацыю.

9. За нявыдачу альбо няправільнае запаўненьне разьліковай кніжкі адміністрацыя прыцягваецца да адказнасьці ў адміністрацыйным альбо крымінальным парадку.

10. Прадпрыемствы, установы і гаспадаркі не павінны патрабаваць ад рабочых, пры наяўнасьці у іх разьліковай кніжкі, падачы спэцыяльных даведак аб месцы работы і аб заработнай плаце (апроч устаноўленых законам выпадкаў абавязковай падачы працоўных сьпіскаў і вестак у лістках непрацаздольнасьці) пры ўмове, калі ў разьліковай кніжцы запоўнены ўсе паказаныя весткі аб месцы работы і аб заработнай плаце. У адпаведнасьці з гэтым, разьліковая кніжка зьяўляецца дакумантам для вылічэньня належачай кватэрнай платы, разьмеру алімэнтаў, разьмеру каперацыйнага паю, тэрмінаў унясеньня яго пры растэрмінаваньні разьмеру крэдыту.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

6 лютага 1930 г.
№ 7



Форма Б.

Дадатак 1.

Форма 1-ай стар.

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

Гэта кніжка заўсёды хаваецца ў рабочага



Зацьвярджаецца.
Нам. Наркампрацы БССР
Д. Захарава.
г. Менск, 6 лютага 1930 г.

## РАЗЬЛІКОВАЯ КНІЖКА.

**Выдадзена рабочему** ..........

Прозьвішча .......... Імя ..........
Імя па бацьку ..........
Родам з рабочых, сялян, служачых і інш. ..........
Вобласьць .......... Акруга ..........
Раён .......... Вёска ..........
Мясцовы адрас: вул. .......... д. № .......... кв. № ..........
Час нараджэньня .........., прынят на пасаду ..........
.........., па выкананьні Біржы працы № ..........
У аддзяленьне, альбо цэх .......... „ ..........“ 193 г., на тэрмін $\frac{\text{вызначаны}}{\text{нявызначаны}}$ па .......... мес.

Кніжка выдадзена .......... 193 г.

Подпіс нанятага ..........

Форма 2-ой старонкі.

Залічаецца на $\frac{\text{частковае}}{\text{поўнае}}$ сацстрахаваньне па тарыфу .......... %

### Умовы найму.

Паводле калектыўнага дагавору, зробленага з Прафсаюзам .......... за .......... 19 г., згодна працоўнага дагавору за .......... 19 г. (непатрэбнае выкрэсьліць).

1. Зьмены ва ўмовах найму — зьмена разраду, стаўкі, перавод на іншую работу і да т. п. (адзначаецца падрабязна ..........
..........
..........
..........

Подпіс наймальніка ..........
Подпіс нанятага ..........

### Звальняецца.

Па прычыне ..........
..........
..........

„ .......... “ .......... мес. 193 г.

м. п.

Подпіс наймальніка ..........
Подпіс нанятага ..........

Форма 3-яй старонкі.

# АСАБІСТЫ РАХУНАК
## ВЫДАДЗЕНАЙ СПЭЦВОПРАТКІ:

| Выдадзена | | | | Зьвернута, выключана | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дата | НАЗВА | Кольkасьць | Тэрмін | Дата | Падстава | Подпіс |
| | | | | | | |

**Дадатак 2**

Выдаецца рабочаму

# РАЗРАХУНКОВЫ ЛІСТ

За месяц ........ 19 ... г.

| ПРОЗЬВІШЧА | ІМЯ | ПА БАЦЬКУ |
|---|---|---|
| | | |

Цэх .............. Рабочы № ..............

Спэцыяльнасьць .............. Разрад ..............

| №№ п. ц. | НАЗВА АПЭРАЦЫЙ | Астача за рабочым на 1-ае бяг. месяца | Выдаецца ў бяг. м-цы: Дата | Выдаецца ў бяг. м-цы: №№ дак. | Выдаецца ў бяг. м-цы: СУМА | Затрымана ў бягучым м-цы | Астача за рабочым на 1-ае наступ. м-ца | Прылічваецца рабочаму: НАЗВА | Прылічваецца рабочаму: Дні ці г. | Прылічваецца рабочаму: СУМА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | У канчатковы разьлік за мінулы м-ц | | | | | | | Астача за мін. м. | | |
| 2 | Дробны крамны крэдыт . . . . | | | | | | | За бяг. м-ц. а) зьдзельна | | |
| 3 | Аванс паўмесячны | | | | | | | б) пачасова . | | |
| 4 | „ разавы . . | | | | | | | в) | | |
| 5 | „ „ . . | | | | | | | Разам . | | |
| 6 | „ „ . . | | | | | | | У тым ліку: | | |
| 7 | Газэты . . . . | | | | | | | Тарыф. Р. | | |
| | | | | | | | | Прыраб.Р. | | |
| 8 | Пазыка індустр. . | | | | | | | г) звыштэрмін. | | |
| 9 | Прыбытк. падатак | | | | | | | д) | | |
| 10 | Судов. утрыманьні | | | | | | | е) | | |
| 11 | | | | | | | | ж) | | |
| 12 | | | | | | | | Разам за бяг. м. | | |
| | Усяго . . | | | | | | | Усяго з астачай | | |

Належыць выплаціць .............. Руб. .............. кап. .............. Рахункавод ..............

Суму .............. Р. .............. к. (прапісам .............. )

атрымаў ..............

Узгоднена з Н. К. Сац. Забясьпечаньня - адносьнік за 2/IV-1930 г. № 9-аг.

**Паст. 92. Пра ўмовы працы асоб, якія працуюць у парадку аказаньня працоўнае дапамогі ў прадпрыемствах і ўстановах гарадзкіх камітэтаў узаемадапамогі.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. На асоб, якія працуюць у прадпрыемствах і ўстановах гарадзкіх камітэтаў узаемадапамогі ў парадку найму, заканадаўства аб працы пашыраецца поўнасьцю.

2. На асоб, якія працуюць у такіх прадпрыемствах і ўстановах у парадку аказаньня працоўнае дапамогі, пашыраюцца наступн. арт. арт. Кодэксу аб Працы БССР: 41 — 43, п. п. „г“ — „е“ арт. 47, 60, 65 — 69, 80 — 85, 94 — 100, 110 — 113, 129 — 131, 134, 138 — 150 і выданыя для іх разьвіцьця пастановы, інструкцыі і тлумачэньні.

Сацыяльнае страхаваньне на гэтых асоб не пашыраецца.

3. У паказаныя прадпрыемствы і ўстановы дапушчаюцца падлеткі ад 16 год.

4. Разьмер узнагароды паказаным у арт. 2 асобам вызначаецца кіраўніцтвам паказаных камітэтаў, але ні ў якім разе ня можа быць ніжэй за ўстаноўлены для данай мясцовасьці дзяржаўны мінімум зарплаты.

5. Паказаным у арт. 2 асобам, якія непарыўна працавалі ў прадпрыемствах альбо ўстановах гарадзкіх камітэтаў ўзаемадапамогі $11^1/_2$ мес., даецца водпуск у 12 рабочых дзён. Калі яны звольнены раней гэтага тэрміну — ім даецца адпаведная кампэнсацыя за прапрацаваны час. Непаўналетнім, якія непарыўна працавалі ў паказаных прадпрыемствах альбо ўстановах 11 мес., даецца месячны водпуск; калі-ж яны зволены раней гэтага тэрміну, ім даецца адпаведная кампэнсацыя за прапрацаваны час.

6. Спэцвопратка і перасьцярожныя прылады для работы выдаюцца па нормах, ўстаноўленых НК Працы.

7. Паказаныя ў арт. 2 асобы у выпадку часовай страты працаздольнасьці захоўваюць за сабой месца ў прадпрыемстве альбо установе, дзе яны працавалі, на тэрмін ня больш 2 месяцаў, а пры цяжарнасьці асобы фізычнай працы—на працягу 4-х месяцаў, а іншыя—3-х месяцаў (2 і $1^1/_2$ мес. да радоў і 2 і $1^1/_2$ мес. пасьля радоў).

На працягу гэтага тэрміну паказаныя асобы захоўваюць свой сярэдні заработак у палавінным разьмеры.

8. Працоўныя ўзаемаадносіны з паказанымі ў арт. 2 асобамі спыняюцца за выходам тэрміну, устаноўленага кіраўніцтвам камітэту для знаходжаньня гэтых асоб у прадпрыемстве альбо ўстанове—бяз уплаты выхадной дапамогі.

9. Паказаныя ў арт. 2 асобы маюць права ва ўсялякі час пакінуць сваё месца работы, але павінны аб гэтым папярэдзіць адміністрацыю за 3 дні.

10. Пры датэрміновым зьняцьці з работы паказаных у арт. 2 асоб яны павінны папярэджвацца за 5 дзён, у супраціўным выпадку ім выплачваецца іх заработак за 5 дзён.

11. Правілы ўнутранага парадку для гэтых установ і прадпрыемстваў павінны ўстанаўляцца гарадзкімі камітэтамі ўзаемадапамогі і зацьвярджацца інспэкцыяй працы.

12. Канфлікты паміж гарадзкімі камітэтамі ўзаемадапамогі і паказанымі ў арт. 2 асобамі вырашаюцца па згодзе адміністрацыі з упаўнаважанымі гэтых асоб, якія абіраюцца на агульным сходзе; калі няма згоды—справа перадаецца ў суд.

13. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на інспэкцыю працы.

14. За парушэньне паказаных у гэтай пастанове правіл кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў адказваюць у крымінальным альбо адміністрацыйным парадку.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

5 красавіка 1930 г.
№ 25.

**Паст. 93. Пра скасаваньне абежніку свайго за 20/І-1927 г. № 31 „Пра сацыяльнае страхаваньне ў працоўных калектывах“.**

З тае прычыны, што пытаньне аб сацыяльным страхаваньні ў працоўных калектывах рэгулюецца пастановай Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня за 1/IV-1926 г. № 91—908 („Изв. НКТ“ 1926 г. № 15—16) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе з 1 красавіка 1930 г. лічыць страціўшым сілу абежнік НКП БССР за 20 студзеня 1927 г. № 31.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

12 красавіка 1930 г.
№ 26.

## Пастанова народных камісарыятаў Працы і Аховы Здароўя БССР.

**Паст. 94. Пра мерапрыемствы для забясьпечаньня мэдпэрсаналам вышэйшае і сярэдняе кваліфікацыі сацыялістычнага сэктару вёскі.**

Для забясьпечаньня вёскі мэдпэрсаналам вышэйшае і сярэдняе кваліфікацыі і для больш рацыянальнага скарыстаньня спэцыялістаў, народныя камісарыяты Працы і Аховы Здароўя БССР, паводле пастановы СНК БССР за 6 красавіка 1930 г. (пратакол № 44), пастанаўляюць:

1. Усе паказаныя ў арт. 2 асобы ў дэкадны тэрмін з дня апублікаваньня гэтае пастановы павінны зьявіцца ў адпаведны акругова інспэктарыят аховы здароўя.

2. Явіцца павінны: а) ардынатары клінік, стажоры, скончыўшыя свой ардынатарскі і стажорскі стаж; б) звышштатныя ардынатары, экстэрны, якія не працуюць зараз у мэдыка-санітарных установах; в) мэд. і зуб. дактары і сярэдні мэдпэрсанал, якія займаюць па поўпасады ў мэдустановах (праца ў 2-х установах па поўпасадзе лічыцца за поўную пасаду), г) мэд. і зуб. дактары і сярэдні мэдцэрсанал—адзі-

ночкі, якія ня зьвязаны з горадам па сямейна-бытавых умовах; д) мэддактары скончыўшыя мэдфак і ардынатуру ў апошнія 3 гады (1927, 1928, 1929 г.), калі яны зусім не працавалі на вёсцы, альбо працавалі менш за 3 гады; е) усе асобы, якія маюць вышэйшую альбо сярэднюю мэдычную асьвету, але не працуюць па спэцыяльнасьці.

Ад яўкі аслабаняюцца: а) члены ЦВК БССР; б) усе асобы, якія займаюць адказныя выбарныя пасады; в) асобы, якія звыш 5-ці год працуюць не па спэцыяльнасьці; г) асобы, страціўшыя звыш 50% працаздольнасьці (па адпаведных даведках лекава-кантрольных камісій).

3. Арганізаваць пры акруговых інспэктарыятах аховы здароўя камісіі ў складзе прадстаўнікоў акруговага інспэктарыяту аховы здароўя (старшыня), акрінспэкцыі працы і Саюзу Мэдсанпрацы для перасоўкі паказаных у арт. 2 асоб на працу ў вёску.

4. Паказаныя ў арт. 2 асобы пры пасылцы на работу, калі гэта зьвязана з пераменай месца пражываньня, атрымліваюць ад адпаведнага акруговага інспэктарыяту аховы здароўя пад'ёмныя і інш. кампэнсацыі, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 9/XI-1927 г. („Известия НКТ“ 1927 г. № 52).

5. Асобы, якія ўхіляюцца ад яўкі (арт. 1 гэтае пастановы) прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 102 Крым. Код. БССР; тыя-ж асобы, якія адмаўляюцца ад працы па спэцыяльнасьці і ад перасоўкі на работу на вёску, зьнімаюцца з займаемай пасады, на працягу 6 месяцаў не рэгіструюцца на біржах працы і на гэты-ж тэрмін пазбаўляюцца права на атрыманьне дапамогі па беспрацоўю ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *Цэнцыпер.*

18 красавіка 1930 г.
№ 27.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

### Паст. 95. Пра вясновы і летні перапынак у навучальных установах БССР у 1929/30 навучальным годзе.

1. Ва ўсіх вясковых і гарадзкіх 4 гадовых школах і школах першае ступені, першым і другім канцэнтры 7-і 9-гадовых школ, школ II ступені, у тым ліку і практыкавальных школ пры пэдтэхнікумах і пэдфаку БДУ, Цэнтральнай Дасьледчай Школе, трэцім канцэнтры 9—і 10-гадовых школ, ШСМ, ФЗВ устанавіць летні перапынак з 15 чэрвеня да 15 жніўня г. г.

2. Ва ўсіх с.-г. прафшколах, тэхнікумах, палітэхнікумах і індустрыяльных прафшколах і тэхнікумах, аб'яднаных прафшколах, пэдаг. тэхнікумах, 1 і 2-х гадовых пэдкурсах, рабочых факультэтах дзённых і вячэрніх, агульна-адукацыйных курсах, вячэрніх школах павышанага тыпу ўстанавіць летні перапынак з 1 ліпеня да 15 жніўня.

4. Для ўстаноў палітасьветы — школ малапісьменных, вячэрніх школ сялянскай моладзі, сеткавых лікпунктаў, якія прапрацавалі поўны курс праграмы, паводле навучальнага пляну—устанавіць летні перапынак з 1 мая да 15 жніўня.

Увага. Лікпункты на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах, якія ня скончылі поўнага курсу праграмы, а таксама нова-адчыненыя лікпункты працягваюць сваю працу без абмежаваньня тэрміну да сканчэньня курсу праграмы.

5. Для вышэйшых навучальных установ—БДУ, С. Г. Акадэміі, Вэт. Інстытуту летні адпачынак устанавіць з 1 ліпеня да 15 жніўня.

6. Установы для дэфэктыўных дзяцей (Інстытут Глуханямых, Інстытут разумова-адсталых дзяцей, Інстытут сац. перавыхаваньня, Школа сьляпых), а таксама дзіцячыя сады, ачагі, дзіцячыя дамы, калёніі, гарадкі і г. д., як зачыненыя ўстановы, працуюць без перапынку.

7. Ва ўсіх школах сацвыху: вясковых і гарадзкіх школах I, II і III канцэнтру, практыкавальных школах пры п/т. п/ф. і Цэнтральнай Дасьледчай школе ўстанавіць вясновы перапынак для дзяцей з 1 па 5 мая ўключна.

8. З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастанова НК Асьветы БССР за 31/XII-1929 году № 27.

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Платун.*

Сакратар НКА БССР *Гірко.*

31 сакавіка 1930 г.
№ 43.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР.

### Паст. 96. Пра зьмену арт. арт. 3 і 7 „Інструкцыі НКФ СССР № 15 аб зборах за агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты“.

*Начальнікам адміністрацыйных аддзелаў АВК і Сакратарыяту Віцебскага АВК.*

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе прыняць да кіраваньня наступнае:

1. Паводле абежнага распараджэньня НКФ СССР наркамфінам саюзных рэспублік, арт. 3 і 7 Інструкцыі НКФ СССР за № 15, абвешчанай у абежніку НКУС за 16/IX-1929 г. № 64 (Бюл. СНК 1930 г. № 1(75), павінны быць запісаны ў наступнай рэдакцыі:

„Арт. 3. Да II катэгорыі (па стаўцы 100 р.) адносяцца: рабочыя і служачыя, месячны заработак якіх па ўсіх пасадах разам не перавышае 250 руб. у месяц; сяляне, якія маюць даход ад сваёй гаспадаркі ў межах пяціразовага, неабкладаемага адзіным сельска-гаспадарчым падаткам, мінімуму; саматужнікі, рамесьнікі і іншыя асобы, якія жывуць на сродкі ад асабістай вытворчай агульнакарыснай працы не па найму, абкладаемыя прыбытковым падаткам, даход якіх ня перавышае 1000 р. у год, а таксама члены іх сем'яў, якія знаходзяцца на ўтрыманьні пералічаных у гэтым артыкуле асоб,—пры паездках за граніцу для лячэньня па заключэньню камісій пры краявых, абласных і акруговых аддзелах аховы здароўя“.

„Арт. 7. Да III катэгорыі (па стаўцы 200 р.) адносяцца:

а) рабочыя, служачыя і сяляне, непазбаўленыя выбарных правоў саматужнікі, рамесьнікі і іншыя асобы, якія пражываюць на сродкі ад асабістай вытворчай агульна-карыснай працы не па найму, а таксама знаходзячыяся на ўтрыманьні пералічаных у гэтым артыкуе асоб члены іх сем'яў, якія ня могуць быць аднесены да асоб першых дзьвюх катэгорый, памянёных у арт. 2 і 3 гэтай інструкцыі;

б) асобы, якія камандыруюцца па агульна-грамадзянскіх замежных пашпартох дзяржаўнымі і каперацыйнымі ўстановамі і прадпры-

емствамі, а таксама ўсялякага роду грамадзкімі арганізацыямі пры паездках, непрадугледжаных п. п. „б“, „в“, „г“, „д“ і „е“ арт. 2 гэтай інструкцыі;

в) эмігранты, якія па сацыяльнаму становішчу могуць быць аднесены да п. „а“ гэтага артыкулу, зарэгістраваныя ў Саўгандальфлёце пры выезьдзе на сталае пражываньне ў краіны эміграцыі для свайго гаспадарчага ўпарадкаваньня ў гэтых краінах, г. зн., для падшуканьня сабе працы, для вядзеньня сваёй уласнай гаспадаркі, альбо для пражываньня на ўтрыманьні іншых асоб, якія пражываюць за граніцай.

Увага 1. Тыя эмігруючыя за граніцу грамадзяне, якія ня могуць быць аднесены да п. „а“ гэтага артыкулу, уплачваюць збор за замежны пашпарт па IV катэгорыі, г. зн. у разьмеры 300 руб.

Увага 2. Асобы, якія камандыруюцца мяшанымі акцыйнымі таварыствамі, могуць быць у адносінах аплаты агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў аднесены да III катэгорыі толькі ў тым выпадку, калі гэтыя таварыствы прыроўнены да дзяржаўных прадпрыемстваў на падставе канцэсійных дагавораў, альбо спэцыяльных узаканеньняў.“

2. У адпаведнасьці з паказанымі вышэй зьменамі трэба §§ 33, 34 і 35 пераліку дакумэнтаў, далучанага да абежніку НКУС 1929 г. за № 64, (Бюл. СНК 1930 г. № 1 (75), стар. 32) перанесьці з разьдзелу „II катэгорыя — 100 руб.“ у разьдзел „III катэгорыя—200 руб.“

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

31 сакавіка 1930 г.
№ 32.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 97. Аб прыняцьці да кіраваньня і выкананьня абежніка НКФ СССР за 22 сакавіка 1930 г. № 356 „Пра парадак выплаты ўзнагароды за перададзеныя фінансавым органам скрытыя каштоўнасьці, уласьнікі якіх невядомы“.

*Усім акруговым фінансавым аддзелам, установам Дзяржаўнага Банку і раённым выканаўчым камітэтам.*

Народны Камісарыят Фінансаў БССР абвяшчае для кіраваньня і выкананьня абежнік НКФ СССР за 22 сакавіка 1930 г. № 356 „Пра парадак выплаты ўзнагароды за перададзеныя фінансавым органам скрытыя каштоўнасьці, уласьнік якіх невядомы“.

Разам з гэтым прапануецца акруговым фінансавым аддзелам і раённым выканаўчым камітэтам ужыць усе патрэбныя захады да шырокай інфармацыі сярод насельніцтва асноў пастановы ЦВК і СНК СССР за 3 студзеня 1930 г. „Пра дапаўненьне пастановы аб парадку скарыстаньня канфіскаванае, вымарачнай і безгаспадарнае маемасьці“ (З. З. СССР 1930 г., № 5, арт. 48).

Дадатак: Абежнік НКФ СССР за 22/III—1930 г. № 356.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

12 красавіка 1930 г.
№ 2413.

Дадатак.

Копія.

# Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 22 сакавіка 1930 г. № 356

## пра парадак выплаты ўзнагароды за перададзеныя фінорганам скрытыя каштоўнасьці, уласьнікі якіх невядомы.

*Народным камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік. Копія: Праўленьню Дзяржаўнага Банку СССР.*

Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 3/I—1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 5, арт. 48), асобе, якая пакажа і перадасьць фінансавым органам закапаныя ў зямлі альбо іншым спосабам захаваныя дарагія камні, пэрлы, дарэвалюцыйныя залатыя і срэбныя манэты, благародныя мэталы (золата, срэбра, плаціну і мэталы плацінавай групы) у зьлітках, у вырабах і ў ломе, а таксама замежную валюту, уласьнік якіх невядомы, альбо паводле закону страціў на іх права, Народны Камісарыят Фінансаў СССР выдае не пазьней тыднёвага тэрміну пасьля перадачы каштоўнасьцяй узнагароду. Узнагарода выдаецца ў разьмеры 25% кошту перададзеных каштоўнасьцяй. Вартасьць перададзеных каштоўнасьцяй вызначаецца па курсу Маскоўскай Катыравальнай Камісіі на дзень перадачы каштоўнасьцяй, а для прадметаў, якія не катыруюцца, — на аснове ўстаноўленых НКФ СССР расцэнак. Вартасьць перададзеных каштоўнасьцяй, за вылікам расходаў на іх адшуканьне і выдадзенай узнагароды, залічаецца ў даход скарбу па бюджэту тэй саюзнай рэспублікі, на тэрыторыі якой знойдзены гэтыя каштоўнасьці.

Прапануючы Вам ва ўсіх адпаведных выпадках дакладна выконваць усе паказаньні закону, НКФ СССР адначасова просіць Вас мець на ўвазе наступнае:

1) каштоўнасьці, якія перадаюцца фінансавым органам, могуць быць выяўлены закапанымі альбо захаванымі дзе-б гэта ні было: у лесе, у полі, у студні, у сакрэтніку пакінутага дому і г. д.;

2) уласьнік каштоўнасьцяй лічыцца невядомым, калі ня маецца ніякіх паказаньняў на тое, што яны належаць якой-небудзь вызначанай асобе;

3) уласьнік каштоўнасьцяй прызнаецца страціўшым права на маемасьць, калі ён зьбег за мяжу, альбо калі маемасьць яго канфіскавана паводле прыгавору суда або іншых органаў;

4) грамадзяне, выявіўшыя каштоўнасьці і нявыканаўшыя абавязкаў па іх ахове і здачы фінансавым органам, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці па адпаведных артыкулах крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік.

Апроч таго, Народны Камісарыят Фінансаў Саюзу ССР просіць Вас прыняць да кіраваньня наступнае:

I. Неадкладна пасьля прыёму каштоўнасьцяй мясцовы фінансавы аддзел (альбо Дзяржаўны Банк) сартуе каштоўнасьці па наступных дзьвёх катэгорыях:

а) замежная валюта і каштоўныя мэталы ў манэце, зьлітках і ломе;

б) вырабы з каштоўных мэталаў, каштоўныя камні і пэрлы.

Каштоўнасьці, паказаныя пад літ. „а“, расцэньваюцца наступным чынам:

1) замежная валюта—паводле курсаў Катыравальнай Камісіі пры Праўленьні Дзяржаўнага Банку ў Маскве;

2) каштоўныя мэталы ў манэце, зьлітках і ломе—паводле афіцыйнай цаны на гэтыя мэталы.

Каштоўнасьці, паказаныя пад літ. „б“, перасылаюцца фінансавым аддзелам (альбо мясцовай установай Дзяржаўнага Банку) у адрас Праўленьня Дзяржаўнага Банку (Масква, Няглінны, 12), пры гэтым на ўпакоўцы робіцца надпіс: „каштоўнасьці з выплатай узнагароды“. Да адпраўкі гэтых каштоўнасьцяй па жаданьню асобы, якая здала іх, робіцца мясцовая папярэдняя расцэнка гэтых каштоўнасьцяй, выходзячы з рыначных пакупных цэн дзяржаўных прадпрыемстваў, з захаваньнем пры гэтым § 24 Правіл па ўжываньню закону за 28 мая 1927 г. „Пра парадак скарыстаньня безгаспадарнай і іншай маемасьці („Сыстэматычны збор распараджэньняў НКФ СССР“ том III, старонка 775). Вынікі канчатковай расцэнкі каштоўнасьцяй тэлеграфна паведамляюцца Праўленьнем Дзяржаўнага Банку фінансаваму аддзелу альбо мясцовай установе Дзяржаўнага Банку.

II. Узнагарода асобе, паказаўшай і перадаўшай каштоўнасці, выплачваецца ў разьмеры 25% вартасьці каштоўнасьцяй, паводле ўстаноўленай іх расценкі, прычым:

а) вартасьць каштоўнасьцяй, паказаных пад літ. „а“ арт. 1 гэтага абежніку, выплачваецца мясцовай установай Дзяржбанку неадкладна пасьля іх расцэнкі (у выпадку, калі каштоўнасьці паступілі ў фінансавы аддзел, яны перадаюцца апошнім у распараджэньне мясцовай установы Дзяржаўнага Банку);

б) вартасьць каштоўнасьцяй, паказаных пад літ. „б“ арт. 1 гэтага абежніку, выплачваецца фінансавым аддзелам альбо мясцовай установай Дзяржаўнага Банку неадкладна пасьля атрыманьня тэлеграфнага паведамленьня Дзяржаўнага Банку аб іх расцэнцы.

У выпадках адлегласьці месца выяўленьня і здачы каштоўнасьцяй ад цэнтру—дазваляецца, як выключэньне, авансавая выплата ўзнагароды раней устанаўленьня канчатковай расцэнкі каштоўнасьцяй, якія перасылаюцца ў цэнтр, на падставе даных папярэдняй расцэнкі, якая адбываецца на месцы. Такая выплата дапушчаецца толькі пад асабістую адказнасьць загадчыка фінансавага аддзелу альбо кіраўніка мясцовай установы Дзяржаўнага Банку, пры чым сума авансу, што выдаецца, не павінна быць больш 50% мясцовай ацэнкі, у кожным разе не павінна перавышаць 500 рублёў.

III. Работа па прыёму каштоўнасьцяй, што перадаюцца, іх расцэнка і выплата ўзнагароды павінна праводзіцца бяз усякай зацяжкі, маючы на ўвазе, што для выплаты ўзнагароды законам устаноўлен, у якасьці максымальнага, тыднёвы тэрмін з дня перадачы каштоўнасьцяй фінансаваму органу.

IV. Прапанаваць мясцовым фінансавым органам прыняць усе патрэбныя захады да шырокай інфармацыі сярод насельніцтва (праз мясцовы друк і інш.) асноў закону за 3 студзеня 1930 г.

Аб прынятых Вамі ў гэтым напрамку захадах просьба тэрмінова паведаміць НКФ СССР, па Валютнаму Кіраўніцтву.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў
Саюзу СССР *М. Рогаў.*

Пам. Начальніка Валютнага Кіраўніцтва НКФ СССР *Маргуноў.*

22 сакавіка 1930 г.
№ 356.

## Пытаньні і адказы.

ЗАПЫТАНЬНЕ ПАМ. ПРАКУРОРА 1-га ВУЧ. МАЗЫРСКАЕ АКР.

Пастановай ЦВК і СНК БССР за 29/VI-29 г. прадастаўлена права суду сыскваць алімэнты з маемасьці ўсяго двара ў тым выпадку, калі такі ўгоіць факт выдзелу са складу двара асобы, з якой прысуджаны сродкі на ўтрыманьне дзіцяці.

Ці можне на падставе гэтага закону зьвяртаць спагнаньне алімэнтаў на маемасьць усяго двара, з члена якога ўжо судом былі прысуджаны алімэнты да выданьня гэтага закону, які па рашэньню зямельнай камісіі выдзяліўся з двара і за належачую яму частку маемасьці, у парадку арт. 84 Зям. Код., атрымаў грашовую кампэнсацыю і пасьля гэтага сам паехаў невядома куды. Гаспадарка гэта моцная.

АДКАЗ. Паводле арт. 71-а Код. Зак. аб шлюбе сям'і і апецы (З. З. БССР 1929 г. № 25. арт. 143) у выпадках прысуджэньня алімэнтаў на ўтрыманьне дзіцяці з члена двара, гэтыя алімэнты спаганяюцца з маемасьці ўсяго двара, калі двор утоіць факт выдзелу са складу двара той асобы, з якой прысуджаны сродкі на ўтрыманьне. Падставай для паказанай адказнасьці двара зьяўляецца ўтойваньне дваром факту выдзелу адказчыка са складу двара; таму гэтая адказнасьць наступае ва ўсіх выцадках, калі факт утойваньня выдзелу адказчыка са складу двара адбыўся пасьля ўступленьня ў законную сілу паказанага вышэй арт. 71-а. гэта значыць, пасьля 17 жніўня 1929 г. незалежна ад таго, калі было вынесена рашэньне суда аб прысуджэньні алімэнтаў: да паказанага тэрміну альбо пасьля яго.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук. Зак. № 2961. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 5000 экз.